У гэтым нумары 6 страніц.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. аг 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 6 Вільня, Чацьвер, 6-га трауня 1926 г. Год I.

## Спроба сіл.

У сувязі з перажыванай цяпер Польшчай фінансавай катастрофай, у сувязі з рашучым становішчам працоўных масаў, якія ня хочуць пазволіць, каб іх потам і крывёй пануючая ў Польшчы буржуазія другі ўжо раз „ратавала“ банкруцтва сваей уласнай гаспадаркі, — сучасныя паны палажэньня зусім паважна пачалі рыхтавацца да таго, каб завясьці ў Польшчы *дыктатуру*. Пачалі навет зусім канкрэтна называць кандыдатаў у дыктатары: маршалка Пілсудскага, як кандыдата *буржуазнае лявіцы*, і—заклятага ворага яго, кандыдата самых *чорнасоценных партыяў*, генерала Сікорскага, якога навет „Ліга Абароны Польскае Дзяржавы“ ў Пазнані ababрала за свайго пачэснага старшыню. А побач з гэтымі плянамі ўзьняўся яшчэ трэці: прызваньне на польскі пасад—*караля*.....

І буржуазныя дыктатуры, і кароль — патрэбны буржуазіі дзеля таго, каб лепш закабаліць узварухнуўшыяся масы працоўных мест і вёсак ды, ратуючы свае ўласныя кішані, пераклaсьці на сялян і работнікаў увесь цяжар і кошты ратаваньня польскага скарбу, увесь цяжар утрыманьня ладу, які мае на мэце перад усім забясьпечаньне валадаючым клясам іх „сьвятога права ўласнасьці“. Дык ясна, як працоўныя масы павінны аднясьціся да ўсіх гэных мяркаваньняў аб завядзеньні *дыктатуры буржуазіі* ў тэй ці другой форме.

У сувязі з усьведамленьнем працоўных аб утварыўшымся палажэньні і ўсіх гэных буржуазных праектах, у сувязі з усё узрастаючым безрабоцьцем і дарагоўляй, — адначасна з ажыўленьнем дзеяльнасьці польскіх фашыстаў пачаліся і больш рашучыя выступленьні работнікаў — пад лёзунгам: *хлеба і працы*! Але нашы „дабрадзеі“ рыхтуюць ім замест хлеба і працы—нешта другое... Выявілася гэта вельмі ярка ў дзень Сьвята Працы.

Яшчэ задоўга да сьвяткаваньня Першага Мая польская буржуазная прэса пачала пускаць правакацыйныя весткі, быццам работніцкія партыі маняцца ў дзень Сьвята Працы зрабіць аружнае паўстаньне і скінуць буржуазную ўладу. Весткі гэтыя былі зусім нязгодныя з праўдай, але што мае супольнага з праўдай буржуазная этыка, калі справа йдзе аб цэласьць кішані?! Вось-жа, пад відам патрэбы „абараніць“ Польшчу ад рэвалюцыі, польскія фашысты пачалі зусім адкрыта — на вачах улады—рыхтавацца іменна да аружнага выступленьня проці працоўных, манючыся крывёй іх затушыць гарачые пратэсты работнікаў проці панскае гаспадаркі. Адкрыта арганізоўваліся фашыстаўскія „баёўкі“, адбываліся зборкі і вучэньне іх. Буржуазная прэса зьмяшчала бяз ніякіх перашкод з боку устаноў, пастаўленых ахоўваць законы гаспадарства, яўна проці-законныя адозвы з прызывам *сілай разьбіваць* мірныя работніцкія маніфэстацыі, на якія тая-ж улада давала дазвол....

І вось у выніку такой падгатоўкі ў дзень Першага Мая ў цэлым радзе мест палілася работніцкая кроў, пралітая рукамі польскіх фашыстаўскіх банд. А найбольш яркі абраз гэтага мы бачылі на вуліцах нашае старое Вільні. Тут ганебнае ўчасьце ў фашыстаўскім нападзе на работнікаў прынялі польскія газэты „Słowo“ і „Dziennik Wileński“, друкуючы *прызывы да нападу на работнікаў*,— а апошняя часопісь пасьля крывавых падзей з бяспрыкладным цынізмам ілгала, што гэта „публіка“ была „справакавана жыдамі“ і т. п.

Але памыляўся бы той, хто думаў-бы, што сярод тэй банды польскіх студэнтаў, якія з дубінамі кінуліся біць безбаронных работнікаў, былі *выключна* сынкі паноў. Не: паны стараюцца рабіць удары працоўным перад усім *рукамі працоўных-жа*! І вось у Вільні разыгралася ў часе нападу на работнікаў такая драма.

У паходзе йшоў — сярод другіх работнікаў—сторож з аднае бальніцы, у якога ёсьць сын студэнт. Сторож гэты аказаўся цяжка параненым фашыстаўскай баёўкай. Яго палажылі ў бальніцу. І тут бацька раптам даведаўся, што разам з ім ляжыць таксама паранены яго родны сын, які разам з усей гэнай бандай нападаў на работнікаў.... Што павінен быў перажыць гэны чалавек, даведаўшыся, што *сярод скатаваўшых яго бандытаў быў і яго сын*, што *можа рука сына нанясла яму адзін з udaраў і праліла яго кроў?!*...

Польскі фашызм зрабіў *першую спробу сваіх сіл—на безбаронных людзях*, якіх улада запэўніла, што не дапусьце да ніякіх эксцэсаў. У такіх варунках фашыстам лёгка дасталася іх першая „*бліскучая перамога*“. Магчыма, што гэтая перамога разахвоце іх да далейшых выступленьняў. Але тады яны сустрэнуць ужо дружны адпор працоўных, якім маёвыя выпадкі паслужаць добрым папярэджаньнем і навукай, што ім рабіць!....

# Як прайшло сьвяткаваньне 1 мая.

## Крывавы дзень у Вільні.

Ужо вечарам перад першым маем горад прыбраў надзвычайны выгляд.

На сьценах дамоў паявіліся плякаты клясавых прафэсіянальных саюзаў, заклікаючыя пралетарыят Вільні да ўчасьця ў заўтрашняй першамайскай маніфэстацыі. На вуліцах—параськідываны адозвы прафэсіянальных саюзаў. Нячысьленыя староньнікі ППС-аў у Вільні — таксама наклеілі свае паведамленьні аб ладжаным асобна паходзе і першамайскай Акадэміі.

Патрулі паліцыі і войска з насаджанымі штыхамі, спацэруючыя ўжо некалькі дзён па горадзе, згушчаны былі да той меры, што нельга было ступіць кроку, не спаткаўшыся з імі.

Уся армія шпікоў—выслана на вуліцу. Арганізуючыяся да пагрому ад тыдня фашысты і манархісты—з студэнтэрыяй, як авангардам,—напоўнілі вуліцы, запасшыся палкамі.

Уначы прагаварыла падпольле. На Архангельскай вуліцы паявіўся прыбіты да дрэва штандар з камуністычнымі надпісамі. Тое самае знойдзена на рынку Басакі, а ў цялятніку — штандар Комсомолу. Па розных часьцях гораду раськідываліся праклямацыі і брашуры камуністаў.

У гэту-ж самую ноч адбыліся, як апавядаюць, арышты і вобыскі. Каго, за што, сколькі — улада да гэтага часу трымае ў тайне.

Афіцыяльны дазвол на першамайскую маніфэстацыю і паход атрымалі 2 арганізацыі: аб‘яднаньне клясавых прафэсіянальных саюзаў і ППС.

### Мітынг на Людвісарскай вуліцы.

Ад раніцы пачалі зьбірацца работнікі перад саляй Крэйнгеля. Настрашаны ўласьнік адмовіў у памяшчэньні на сход, і мітынг адбыўся пад голым небам, на дзядзінцы гэтага ж самага дому. Прафэсіянальныя саюзы з‘явіліся з штандарамі, лікам каля 20. Па прамовах Годвода, Буйко і Плюдэрмахера (апошні—ад „Бунду“) сфармаваўся паход з 2000 людзей, які з разьвіваючыміся штандарамі прайшоў вуліцамі Людвісарскай, Віленскай, Міцкевіча да Катэдральнага Пляцу.

### ПАХОД.

Да Катэдральнага Пляцу паходу ніхто не зачэпліваў. Кругом увіваліся толькі сільныя патрулі паліцыі. Маніфэстанты йшлі ў прыкладных радох. Ад часу да часу чуваць быў голас таўпы, выcказываючай свае болі і жаданьні. Перад рэдакцыяй манархістычнай газэты—„Słowo“ прагрымела: вон з каралём, няхай жыве работніцка-сялянская ўлада!“. Паход пайшоў далей...

### Пагромшчыкі.

Адкрытыя заклікі да пагрому фашыстаўскай манархістычнай прэсы перад першым мая, а таксама доўгая арганізацыйная падгатоўка хуліганаў—набрала саўсім выразных форм. У Цялятніку сабраўся цьвет віленскага фашызму, складаючыся пераважна з студэнтаў і вучняў сярэдніх школ. Вёў рэй тутка спэцыяльны дэлегат ад фашыстаў з Варшавы, адзін афіцэр віленскага гарнізону і п. Саковіч, працуючы ў „Dzienniku Wileńskim“.. Паліцыя таўпы сумысля „не заўважывала“.

### ПАГРОМ.

Падробны абраз пагрому падае „Kurjer Wileński“.

А 12 гадзіне, калі паход з песьняй „Czerwony Sztandar“ увайходзіў на Катэдральны Пляц, а пярэдняя часьць яго зьбліжалася да Замковай вуліцы, шукаючыя зачэпкі фашысты пачалі пяяць дзяржаўны гімн „Rota“.

Недачакаўшыся ўвагі з боку ідучай маніфэстацыі да гэтых праяваў „патрыотызму“,—чорная сотня, узброеная палкамі,—кінулася на безбаронных учасьнікаў пахаду зьбіваць шапкі і таўчы галовы. Адначасна другая „bojówka“ ўдэрыла ў канец паходу. Узьнялося замяшаньне. Разрэзаная і атакаваная з двух бакоў таўпа разьлілася па цэламу пляцу і толькі пачала запраўды бараніцца. Работнікі вырывалі з бруку каменьні...

Пешая паліцыя кінулася на помач... фашыстам, але не магла даць рады. Ад Катэдральнага пляцу паявілася на разагнаных канях з голымі шаблямі конная паліцыя і, дратуючы маніфэстантаў, ламаючы штандары, разагнала іх. Паміж іншым, калі на цяжка раненага сябру Акружнай Рады клясавых прафэсіянальных саюзаў — Фарнальскага—кінуўся з канём паліцыянт № 1806,— адзін з членаў мяйсцовых органаў прэсы зарэагаваў на гэта, пытаючыся, хто даў распараджэньне разганяць афіцыяльна дазволеную маніфэстацыю і чаму паліцыя не зьвяртаець увагі на фашыстычныя „bojówki“? № 1806, незаікнуўшыся, адказаў, што гэтакі меў загад.

З цэлага паходу ўратавалася ад пагрому пярэдняя часьць, адрэзаная ад сваіх сяброў. Каля 100 асоб з штандарамі дайшлі да памяшчэньня прафэсіянальных саюзаў на вуліцы Жэлігоўскага і там разышліся.

### Ахвяры.

Вуліца ад ваяводства, да тэатру „Лютня“, як сьцьвярджае той жа „Kur. Wil.“, пакроплена крывёю. На Катэдральным пляцу асталіся 4 цяжка раненыя і 8 лягчэй, каторых адвезла карэтка скорай помачы. Колькінаццаць асоб цяжка пабітых павалакліся дамоў уласнымі сіламі. Арыштованы 9 чалавек.

Правадыры паходу інжэнеры Годвод і Заштовт абодва цяжка ранены. Годвода адвёз на звошчыку да хаты камісар паліцыі—Ліходзееўскі. Цяжка ранены: г. Шэміс, вучань вячорных курсаў, якога нехта з работнікаў удэрыў нажом. З боку-ж маніфэстантаў: г. Самасюк, сын стоража, А. Лазарэвіч, гарбарскі работнік і І. Шуфьянаў— электротэхнік.

### Паход ППС.

У гэты самы час ППС у ліку каля 200 людзей прайшлі з аркестрам ад Кіеўскай вуліцы (лёкаль Акр. Камітэту) да Мястовай салі. Прамаўляў пасол Плаўскі, адбыліся артыстычныя продукцыі. Пасьля Акадэмі ўчасьнікі вярнуліся назад да свайго лёкалю, дзе і разыйшліся. Ніякія суперэчкі з фашыстамі, або паліцыяй — ня мелі мейсца.

## 1 мая у Беластоку.

Маючы „манаполію“ ад паліцыі на права арганізаваньня публічных выступленьняў, беластоцкія пэпэсы выкарысталі гэтае права 1 мая так, каб усяму абходу Сьвята Працы надаць пэпэсаў-

скі партыйны характар. Аднак, гэта ім ня вельмі ўдалося.

У паходзе, уладжаным пад павадырствам ППС, прынялі ўчасьце і Прафэсіянальныя Саюзы і другія групы, якім самастойна выступіць было немагчыма. Паход закончыўся мітынгам, на якім пэпээсы, згодна з жаданьнем паліцыі, не дапусьцілі да голасу дэпутата Тарашкевіча (Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада). Пры канцы мітынгу дэп. Тарашкевіч другі раз пробаваў прамовіць, ня гледзячы на затыканьне яму вуснаў. Але, як толькі дэп. Тарашкевіч пачаў прамаўляць, на сцэну ўраз-жа зьявіліся пэпээсаўскія „таварышы ў мундзірах"—прасьцей: пешая і конная паліцыя, і мітынг быў разагнаны.

Характэрна, што, калі пэпээсы пачалі чытаць сваю рэзалюцыю, дык у таўпе падняліся вострыя пратэсты, і рэзалюцыю ўдалося дачытаць да канца толькі дзякуючы таму, што арганізатары мітынгу загадзя абставілі трыбуну „сваімі людзьмі". Можна сьмела сказаць, што вялізарная большасьць работнікаў была проці рэзалюцыі пэпээсаў, ведаючы, што яны толькі дзеля віду робяць пагрозы буржуазіі, а на дзеле зьяўляюцца яе хаўрусьнікамі.

Асаблівае абурэньне ўчасьнікаў мітынгу выклікала забарона прамовіць п. Тарашкевічу.

У паходзе прымала ўчасьце каля 3.000 работнікаў. На мітынгу разам з „публікай" было каля 5.000 душ.

## 1 мая у Горадні.

Сьвяткаваньне 1 мая ў Горадні было наладжана Клясавымі Прафэсіянальнымі Саюзамі асобна ад пэпээсаў, хаця апошнія ўсюды стараюцца наклеіваць сваю „фірму", карыстаючыся тым, што ім буржуазная ўлада, як сваім хаўрусьнікам, дазваляе шмат больш, чым камуколечы іншаму.

Згодна з запаведзяй на расклееных загадзя афішах у беларускай і польскай мове, у 1 гадз. папал. ў салі „Модэрн" адбыўся мітынг, на якім ад імя Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады выступаў пасол Валошын. Саля была да краёў напоўнена работнікамі, горача вітаўшымі беларускага дэпутата. Прысутных было ад 800 да 1.000 душ, што для Горадні дужа многа.

Пэпээсаўскае выступленьне прайшло дужа бледна і малалюдна.

## I мая у Баранавічах.

Ад раніцы ў места з акалічных вёсак пачалі падыходзіць групы сялян-маніфэстантаў, некаторыя па 300—400 душ—з чырвонымі сьцягамі, на якіх былі беларускія нацыянальныя лёзунгі і партыйныя пэпээсаўскія. Ня гледзячы на тое, што пэпээсаўскія паслы перад тым гарантавалі сялянам, што ніякіх перашкод, арыштаў і разганяньня маніфэстантаў ня будзе, паліцыя — пешая і конная—яшчэ далёка за местам пераймала сялян і разганяла іх, недапускаючы да места. Пры гэтым былі арыштаваны каля 40 асоб і ўзяты ў маніфэстантаў каля 25 сьцягаў.

Напярэдадні Першага Мая адбыліся ў горадзе вобыскі сярод беларусаў — навет ня маючых „вывротовае" маркі, як, прыкладам, у былага „актывіста" Міткевіча. Нічога „праступнага", ведама, не знайшлі.

## I-га мая у Варшаве.

У Варшаве адбыліся 4 маніфэстацыі: 1) ППС, лікам—13 тысяч людзей, 2) „Бунда"—7.000, 3) „Поале Сіон" (лявіца)—4.000 і 4) камуністаў каля 2.000 асоб. Бунд і Поале-Сіон ладзілі мітынгі на акраінах горада і да праліву крыві не дайшло.

У цэнтры горада разыграліся страшэнныя сцэны.

Каля 10 гадз. раніцай на Тэатральны пляц пачалі наплываць арганізацыі ППС і камуністаў. Пэпээсаўская міліцыя жывой сьцяной стала між абыдвума таўпамі работнікаў, і мітынгі адбыліся асобна.

Пасьля закончаньня прамоў, калі паход ППС крануўся з пляцу,—камуністы папрабавалі прылучыцца да яго. „Bojówki" ППС пусьцілі ў ход палкі, не дапускаючы такім чынам да зьліцьця. На помач пасьпела паліцыя і супольнымі сіламі адкінулі камуністаў у бочныя вуліцы, ззаду паходу.

На пляцу асталіся пабітыя. Двум цяжка раненым камуністам аказана санітарная помач. Паход ППС ішоў далей вуліцамі Мёдовай, Краковскім-Прадмесьцем, Новым-Сьветам, Алеямі Ерузалімскімі, Нававейскай і Маршалкоўскай, канец яго затарасавана аўтамабілямі.

Ззаду шлі камуністы ў сваім паходзе.

На „Кракаўскім Прадмесьцю" пасыпаліся стрэлы. Хто страляў — няведама. Ясна, што гэта была правакацыя з боку фашыстаў, цісьнучыхся на тратуарах. Каля аптэкі Вэнда ўпаў ранены рэвальвэрнай куляй работнік Качыньскі. Сьмяртэльна ранены заблудзіўшайся куляй паліцэйскі вывядоўца Грудзіньскі. Ранена якаясь кабета, у замяшаньні шмат каго патурбавалі.

Абодва паходы йшлі далей. Перад будынкам Міністэрства чугунак забіты стрэлам гарбар Павлін і ранены А. Ягодзінскі.

Нарэшце на пляцу „Trzech Krzyżów" трэці раз распачалася страляніна, найбольш густая і доўга трываючая.

Стаўбы касьцёла сьв. Аляксандра і цёмныя куткі на пляцу заўсёды служылі месцам папісаў правакатараў. Пэпээсаўская міліцыя, баючыся зьліцьця паходаў на пляцу якраз у гэтым мейсцы, пачала ўстаўляць шырэй свае аўтамабілі. Зьліжаючыся паход камуністаў не адступіў перад імі. Аднекуль было чуваць залп стрэлаў. „Robotnik" падае, што стралялі ў паход з тратуараў, брам дамоў, а навет з аднаго вакна. Упаў забіты ППС міліцыянт—Возьняк.

На гэты раз „bojówka" ППС адказала стрэламі ... **скіраванымі ў паход камуністаў**. Хаця страляніна трывала каля мінуты, на вуліцах папаліся забітыя і раненыя. Пешая і конная паліцыя, каторая ў часе паходу заховывалася пасыўна, урэзалася цяпер між абедзьвюма маніфэстацыямі і, адкінуўшы камуністаў у бочныя вуліцы, разагнала іх. Мейсца камуністычнага паходу заняла паліцыя, пад ахранай якой ППС дайшлі да лякалю свайго Акружнага Камітэту.

Дакладны лік ахвяр — няведамы. Як падлічвае прэса,—забіты 4 асобы, ранены больш як 30. Паліцыя зрабіла масавыя арышты; сколькі іменна арыштавана, да гэтага часу ўлада трымае ўтайне.

### У Новым Дварэ (пад Варшавай).

У Новым Дварэ адбылася маніфэстацыя і паход, з'арганізаваныя прафэсыянальнымі саюзамі. Прыймалі ўчасьце безработныя ў ліку каля 600. У хвіліне, калі паход уваходзіў на галоўную вуліцу,—паліцыя загарадзіла дарогу. Дэманстранты адмовілі послуху. На загад камэнданта Квасіньскага раздаліся залпы ў таўпу, паўторываючыся некалькі разоў. Забіты адзін работнік, цяжка ранена колькінаццаць.

### У Лодзі.

ППС, Бунд і Нямецкая Сацыял. Партыя сьвяткавалі першае мая разам. У маніфэстацыі прыймала ўчасьце каля 30 тысяч работнікаў. Да праліцьця крыві—не дайшло.

### У Львове.

Маніфэставалі 25 тысяч работнікаў. ППС, Бунд і Поале-Сіон ладзілі паходы асобна. Сутычак з паліцыяй—ня было.

### У Кракаве.

ППС, Бунд і Поале-Сіон ішлі ў адным паходзе. Асобна маніфэставалі незалежныя сацыялісты; маніфэстацыя іх мела вельмі бурны ход. Паход „незалежных сацыялістаў" паліцыя разагнала.

### У Стрыю.

Маніфэстацыя ППС прайшла спакойна. Сходзіны, на якіх меў прамаўляць пасол Пашчук з камуністычнай пасольскай фракцыі,—разагнаны паліцыяй.

### У Любліне.

Паход ППС прайшоў спакойна. На маніфэстацыю „Бунда", лічучую 3.000 участнікаў, напала група фашыстаў. Пабіты колькінаццаць асоб, у тым некалькі цяжка; адабраны ў дэманстрантаў 2 штандары.

### I-га мая ў Італіі.

28/IV Рада міністраў пастанавіла забараніць 1-ша майскія паходы і дэманстрацыі ў дзяржаве.

### I-га мая ў Вэнгрыі.

Вэнгерскі ўрад забараніў усялякія сходзіны і палітычныя дэманстрацыі ад дня 28/IV да 2 мая ўключна.

## Як буржуазія ратуець свае кішані.

Ужо другі тыдзень уся ўвага шырокіх мас зьвернена на пытаньне: чым коштам мае быць залатаны недахват у бюджэце?

Міністар скарбу п. Зьдзеховскі 17 красавіка адкрыта прызнаўся, што ўсе абяцанкі аздараўленьня гаспадарчага жыцьця, аздараўленьня, у імя каторага буржуазна-абшарніцка-пэўэсаўскі ўрад абабраў да апошняй ніткі працоўныя масы,—аказаліся маной. У краю голад, безрабоцьце, а ў бюджэце новы недахват, каторы ўзноў трэба чымсь латаць. Міністар прызнаўся далей, што ўрад сам зруйнаваў злоты, выпускаючы кожын месяц паперкі без забясьпечаньня золатам. Каротка: крах буржуазнай гаспадаркі, каторы даўно ўжо балюча адчуў на ўласнай скуры і селянін і работнік і працуючы інтэлігент, — сцьверджаны міністрам афіцыяльна.

Пасьля гэтага — прыйшоў само сабой чарод на вышуківаньне ратунку.

Пан міністар падаў свой праект аздараўленьня. Праек гэты — ёсьць праектам далейшага руйнаваньня працоўных мас. Зьмест яго выразна падыктованы абшарнікамі і капіталістамі, якія маюць адзін лек на ўсе хваробы гаспадаркі: не даючы самі ні граша, -- абкласьці новымі падаткамі насяленьне, рэдукаваць і г. далей.

Праект міністра Зьдзеховскага прыняты ўжо Радай Міністраў, і гэтак адказнасьць за яго ўзяў увесь урад п. Скшыньскага.

Каб працоўныя масы добра ведалі, што вісіць над іх галовамі, падаем зьмест уставу „аб спосабах запэўненьня бюджэтнай раўнавагі". У ім 12 разьдзелаў; дзеліцца ён на дзьве часьці: 1) аб павялічэньні даходаў і 2) аб зьмяншэньні выдаткаў.

Разьдзел першы пастанаўляе аб падвышэньні падаткаў. Падвышаюцца ад 1/VII—1926 да 1927 г., усе беспасрэднія і пасрэднія падаткі, штэмплёвыя аплаты, падаткі ад спадчыны і даравізны на **10%**

## З падарожы па Радавай Беларусі.

### Беларусізацыя.

Як я ўжо казаў, беларуская мова ёсьць мовай дзяржаўнай, якой карыстаюцца ў дзяржаўных установах і школах. Кожны ўрадовец павінен ведаць беларускую мову. Для тых, хто яшчэ ня ўмее пабеларуску чытаць і пісаць, ладзіцца цэлы рад падгатоўчых курсаў. Таксама і ў школах іншых нацыянальнасьцяў уведзена, як прадмет, беларуская мова. Згодна з законам, усе ўрадавыя ўстановы павінны перайсьці на беларускую мову ўрадаваньня. Але дагэтуль поўнасьцю перайшоў толькі Народны Кам. Асьветы,—другія камісарыяты толькі часткова. Прычына гэтага крыецца ў старым чыноўніцтве, якое ніяк ня можа прывыкнуць да таго, каб карыстацца „мужыцкай" мовай. Акрамя таго, вялікі адпор беларусізацыі ставіць часьць здэнацыяналізованага мяшчанства і другія нацыянальнасьці, як расейцы, жыды і палякі. Вось дзеля гэтага і ў сталіцы Беларусі—Менску мы бачым, што вывескі, напр., напісаны пабеларуску толькі на дзяржаўных установах, а рэшта, і навет прафсаюзныя інстытуцыі, маюць надпісы парасейску, папольску, але толькі не пабеларуску. А шкада! Сталіца Беларусі мусіць нарэшце паказаць свой воблік, як гэта зрабіў Харкаў, ці Кіеў. Праяжджаючы па Сав. Бел., прыходзіцца спатыкаць і шмат прыкрых праяваў, якія выцякаюць з варожасьці да беларусізацыі. Вось, напр., на ст. Менск, прадаўшчыца газэт у кіоску заявіла, што яна „этого языка не понимает". На ст. Орша саўсім няма ні газэт у беларуск. мове, ні кніжак. На пошце ў Негарэлым чыноўніца прасіла напісаць дэпэшу парасейску, бо, бачыце, яна яшчэ дрэнна разьбіраецца ў белар. мове і так далей. Усё гэта—дробныя прыклады, але досіць характэрныя; яны паказываюць, як трудна бароцца з старым чарнасоценным інтэлігентам, які сьпіць і сьніць царабацюшку. Але ў кожным разе беларусізацыя шыбкім крокам ідзець наўперад, падтрымліваная з аднаго боку ўладай, а з другога — моладзьдзю, якая амаль ня ўся расьцець сьвядома беларускай. Яшчэ некалькі гадоў—і можна спадзявацца, што ўсе гэтыя недарэчнасьці будуць перажыты, і Беларусь пазбудзецца варожага элемэнту.

### Інбелькульт.

Што беларусізацыя стаіць на пэўным шляху, гэта даказываець істнаваньне Інстытуту Беларускай Культуры. Гэта ёсьць вышэйшая навуковая ўстанова Беларусі, якая ставіць сваёй мэтай расрацоўку пытаньняў беларускай культуры ва-ўсіх яе выяўленьнях. У некалькіх газэтных радках трудна абхапіць і ўсебакова высьвятліць усё тое, што дае Інбелкульт. Праца пастаўлена і праводзіцца ў шырокім маштабе. Ня гледзячы на тое, што гэтая ўстанова істнуець толькі 3—4 гады і ня можа пахваліцца сваімі сродкамі і памысьнымі варункамі працы, яна дала ўжо вялікія рэзультаты ў розных галінах навуковай працы. Вялікая ўвага зьвернена на апрацоўку беларускае літэратурнае мовы, беларускіх слоў-тэрмінаў, якіх ужо прынята больш як 15.000. Прыступлена да складаньня параўнаўчага расейска-беларускага слоўніка, які мае ўжо больш як 50.000 слоў. Акрамя таго, шмат зроблена ў галіне арганізацыі этнаграфічных дасьледаў Беларусі і архэалягічных раскопак. Гэта карысная для Беларусі ўстанова стаіць на шляху разьвіцьця і мае сьветлую будучыну. Як зорка, яна павінна сьвяціць кожнаму беларусу, гдзе-б ён ні быў, павінна хутчэй падняць занядбаную праз некалькі стагодзяў нашу культуру.

### Літэратура.

Нашы ворагі часта вытыкаюць нам, што мы, беларусы, быццам ня маем жаднай літэратуры, жадных пісьменьнікаў. Галасы гэтыя, праўда, ўжо ня так частыя, як былі раней, і, акрамя таго, належаць найчасьцей да людзей, якія з „ужэнду" павінны ганіць. Але дзеля таго, што яшчэ істнуець гэтая брахня, я мушу крыху спыніцца на тым, як разьвіваецца гэтая „хамская" літэратура там, дзе сёньня беларус лічыць сябе гаспадаром.

Ня буду варочацца да тэй сівой прошласьці, з якой можна-б было даведацца, што наша мова, літэратура калісь-та была прыкладам для тых суседзяў, якія сёньня з такой заядласьцю нападаюць на нас; ня буду казаць і аб прычынах занядаду, а скажу толькі аб сучаснасьці. І вось гэтая сучаснасьць, асабліва там—на Усходзе, — дае мне сьмеласьць сказаць, што ніякія варожыя сілы ня стрымаюць таго імпэту, таго разьвіцьця нашай роднай мовы, нашай літэратуры, якую мы бачым у Радавай Беларусі. Досіць толькі было глянуць на працу Беларускага Выдавецкага Т-ва, якое кожны дзень выпускаець па аднэй новай кніжцы, каб судзіць аб тым, колькі людзей працуе дзеля разьвіцьця роднай літэратуры. Тут ня прыходзіцца многа гаварыць аб тых старшых пісьменьніках нашае літэратуры, як Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, Максім Гарэцкі і інш., якія вядомы напэўна кожнаму граматнаму беларусу і на творах якіх узгадавалася цэлае пакаленьне. Гэтыя пісьменьнікі і сёньня знаходзяцца ў Менску і напэўна яшчэ больш абагацяць

Чорным на белым пры гэтым стаіць, што **падвышка не датыча падатку маёнтковага, ляснога і мыт,** або іначай: звальняюцца ад падвышкі абшарнікі, буржуазія і спэкулянты. Нічога не гаворыцца таксама аб спагоне з іх даўгоў — старых незаплачаных падаткаў на суму 700 мільёнаў, што ўрад мае абавязак узяць і чым-бы адразу залатаў недахват у бюджэце.

Раздзел 2 і 3 накладываюць два новыя падаткі: 1) ад пшоннай мукі і 2) **ад сьвятла ў кватэры, пры тым ня толькі электрычнага, але і карасінавых лямп!**

Разьдзелы 5, 6 і 7 уводзяць **падвышку аплаты ад усялякіх прашэньняў,** ад усіх дакумэнтаў школьных і ад ульговых дакумэнтаў пры пераездах чыноўнікаў, работнікаў, вучняў.

Разьдзелам 8-м пачынаецца другая часьць „спосабаў раўнавагі бюджэту“ — аб **зьмяншэньні выдаткаў.**

Гэты разьдзел утрымовываець у сіле **абрэзаныя пэнсіі ўрадоўцаў** і касуе **падвышкі на дарагоўлю.** Зьмяншэньне мае абязываць да 31/XII—1926 г. Заявы „Niezależnej Partji Chłopskiej“ у гэтай справе, дзе гаворыцца, што трэба перш на 50 проц. абрэзаць пэнсіі міністрам, дырэктарам банкаў і генэралам, якія дастаюць па некалькі тысяч месячна, а пасьля ўжо лезьці ў кішэню чыноўнікам 14 і 15 катэгорый—ня прыняты пад увагу...

Разьдзел 10-ты забараняе прынімаць на дзяржаўную службу новых чыноўнікаў і работнікаў да 30 чэрвеня 1927 г. Толькі вучыцялём можа быць дана праца, але **толькі з спэцыяльным пазваленьнем Міністра Скарбу.** Істнуючы ў хвіліну аканчальнага ўхваленьня ўставу лік работнікаў, затрудненых дзяржавай, таксама можа быць зьменены толькі Міністрам Скарбу. Праект аднаразовага звальненьня 18 тысяч работнікаў на чыгунцы, як бачым, адкінены. Неабмежана можа „рэдукаваць“ затое пан Міністар Скарбу!

Разьдзел 11-ы адносіцца да **эмэрытаў** і інвалідаў. Найважнейшым пунктам гэтага разьдзелу ёсьць пастанова аб рэвізіі выдаваньня дапамог — з тым, каб **усю суму эмэрытур і інвалідзкіх пэнсіяў абрэзаць на 15 міліёнаў злотых.** Што-ж тады астанецца для гэтых нешчасьліўцаў?! — Адначасна выдаткі на войска маюць быць зьменшаны толькі ўсяго на 23 мільёны (з 563 міл.—да 540 міл. злотых), на міністэрства ўнутраных спраў (на паліцыю)—толькі на 5 міл. злот.!

Разьдзел 12-ты уводзіць новую армію ўрадоўцаў—бюджэтных контролераў, каторыя маюць даглядаць праводжаньня „аздароўленьня“.

Урэшце ўрад маніцца выпусьціць ізноў на 80 міліёнаў злот так-званага „білёну“ і „разьменных білетаў“, якія абсалютна нічым не забясьпечаны. Ясна, што гэта йшчэ больш панізіць цану злотага і зробіць пачатак шпарчэйшае інфляцыі...

Нельга сумлявацца, што праект гэты будзе Соймам бясспрэчна прыняты: вось-жа за частковы бюджэт на май і чэрвень у Сойме было пададзена 200 галасоў, пад той час, як проці галасавала ўсяго 156 паслоў.

Дык буржуазія трыумфуе! Яна ў гэтым Сойме правядзе ўсё, што хоча, бо мае бясспрэчную большасьць... **М.**

---

„Беларуская Справа“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

---

# Агульная забастоўка у Англіі.

Сёлетняе „1 мая“ ў Англіі мае, ці — асьцярожней кажучы — можа мець зусім асаблівы характар,—бо можа палажыць пачатак вельмі рашучых і далёка йдучых падзей і зьмен у сацыяльнай будове, а мо'—і ў палітычным лёсе Англіі.

30 красавіка — якраз напярэдадні 1 мая — скончыўся срок усіх тых казённых субсідыяў вугальным прамыслоўцам, якімі англійскі ўрад лагодзіў ды адцягіваў усё завастраючуюся барацьбу між працай і капіталам у гэтай галіне англійскай прамысловасьці—галіне, якая зьяўляецца падставай усяго гаспадарчага жыцьця краю.—Дык якраз 1 мая абодва непрымірымыя ворагі ізноў твар проці твару станулі адзін насупраць аднаго—без усялякіх пасрэднікаў ды „цудоўных лекаў“ з дзяржаўнага скарбу. — Станулі, каб з бою вырашыць пытаньне: хто мае пакрываць недахват у бюджэце краёвай вугальнай прамысловасьці, які дагэтуль латала ўрадавая субсыдыя: ці прамыслоўцы — з часткі сваіх зыскаў, ці — работнікі, дакладаючы сваей галавой ды здароўем сваіх жонак і дзяцей?!...

Да гэтага рашучага мамэнту даўно рыхтаваліся і абедзьве заінтэрэсаваныя стараны, і англійскі ўрад, разумеючы, чым пагражае краю рашучая сутычка абедзьвюх сацыяльных арміяў у падставовай галіне ўсей краёвай гаспадаркі. Але даўно распачатыя перагаворы ў справе кампрамісу ні да чаго не давялі, ня гледзячы на залішне навет вялікую ўступчывасьць англійскіх вуглякопаў. — Разласаваныя казённымі субсыдыямі, у апошнім рахунку, ведама-ж, спаганянымі з усяго працоўнага народу—шляхам павялічаньня падаткаў, — прамыслоўцы з свайго боку на ўступкі ня йшлі... Лёгка зразумець, што прамыслоўцы, маючы **свой** урад, дый пэўныя дзеля таго перамогі над работнікамі — папросту **правакавалі** апошніх на барацьбу... І вось апошнія весткі сьведчаць, што **англійскія вуглякопы прынялі вызаў на бой** з узмацаваўшайся краёвай буржуазіяй.—І якраз дзень 1 мая, апрача свайго агульна-пралетарскага зьместу, у Англіі зьявіўся днём першых „ваенных падзей“, якія могуць, як ужо ясна, разьвярнуцца ў новую „вялікую вайну“ — на вельмі шырокім фроньце, пераходзячым на'т граніцы самай Англіі...

---

Яшчэ задоўга да стоку Міжнародавы Камітэт Вуглякопаў у Брусэлі заявіў англійскім таварышом, што—на выпадак іх забастоўкі—акажа ім з усей салідарнасьцю самую актыўную падмогу. Першым крокам гэтай падмогі будзе **байкот англійскага вугальля па ўсей аб'яднанай Камітэтам Эўропе.** Далейшае разьвіцьцё падзей можа пагражаць забостоўкай вуглякопаў у міжнародавым маштабе...

З другога боку саюз радавых шахцёраў толькі-што выразіў гатоўнасьць падтрымаць усімі сіламі англійскіх таварышоў.

І вось,—у ноч якраз на 1 мая саюз англійскіх вуглякопаў, адкінуўшы правакацыйныя прапазыцыі прамыслоўцаў, абвесьціў **агульную забастоўку.**

Як пралетарыят, таксама і буржуазія з сваім урадам добра разумеюць значэньне пачаўшайся барацьбы. Дзеля таго абодва варожыя лагеры адразу змабілізавалі ўсе свае сілы.

На чале ўсяго руху працоўных зараз-жа стануў Выканаўчы Камітэт Рады аб'яднаных работніцкіх Саюзаў (так-зван. „Трэд Юніонаў“), якому ўсе ўваходзячыя ў склад Аб'яднаньня саюзы далі абшырныя паўнамоцтвы. Зразумела, што першым варункам пасьпеху і перамогі зьяўляецца іх еднасьць, — адзіны фронт працоўных. І вось 1 мая на экстрэннай скліканай Камітэтам канфэрэнцыі 400 дэлегатаў ад 200 Трэд-Юніонаў, рэпрэзэнтуючых **больш 5 міліёнаў арганізаваных работнікаў,** разам з чыгуншчыкамі, працаўнікамі ўсялякага роду транспарту і інш. — пастаноўлена падтрымаць усімі мерамі забастоўку вуглякопаў, а калі да аўторка, 4 траўня, трэбаваньні іх выкана. ны ня будуць, тады—**абвясьціць гэнаральную забастоўку ўсяго пралетарыяту Англіі!..**

---

Але і магутная англійская буржуазія ня спала ды ня сьпіць...

Першым чынам англійскі ўрад, які ў часе перагавораў прамыслоўцаў з работнікамі неяк „трымаў нейтралітэт“, ці папросту — **даў прамыслоўцам справакаваць забастоўку,** цяпер адразу раскрыў карты, выразна стаўшы на бок прамыслоўцаў. Урад пастанавіў прыняць усе меры, каб за ўсялякую цану—**зламаць забастоўку,**—каб работнікі гэтым аружжам нічога не дабіліся ад буржуазіі...

Урад зьвярнуўся да караля, каб той „даў“ яму надзвычайныя паўнамоцтвы... І вось „дэкрэтам караля“ па ўсей Англіі ўведзена — як у часе вайны — **„асаднае палажэньне“.** Урад разьдзяліў увесь край на 10 акругоў, назначыўшы на кожны запраўдных „генарал-губэрнатараў“—з тымі-ж надзвычайнымі паўнамоцтвамі, якія атрымаў сам „ад караля“ (чытай: ад пануючай у Англіі буржуазіі!)...

Усё буржуазнае грамадзянства сьпешна арганізуе „баёўкі“ і атрады „спэцыялістаў“, ці папросту—штрэйк-брэхэраў, каб ламаць забастоўку... Войска і ваенны флёт, ня лічучы ўжо паліцыі, — з пагвалчэньнем закону ды надужыцьцем ваеннай дысцыпліны—уцягнуты ўрадам у барацьбу проці працоўных...

З усяго гэтага ясна, якім шырокім фронтам пачынаецца ў Англіі барацьба, якая лёгка можа пашырыцца і па-за межы краю...

Дык запраўды-ж сёлеташняе 1 мая ў Англіі трэба прызнаць **гістарычным...** Запраўды-ж: ці-ж не сымвалічна ды не паказальна для ўзрошай актыўнасьці пралетарыяту,—што сёлетняе 1 мая ў Англіі, у гэтай **крэпасьці эўрапэйскай буржуазіі** — сталася ня днём пратэсту, ці „перагляду сілаў“, але—днём абвяшчэньня працай вайны капіталу дый—распачацьця першых ваенных падзей?!

## Агульная забастоўка пачалася.

**Роўна ў поўнач на 4 мая ўва ўсей Англіі пачалася агульная забастоўка работнікаў. Перадусім спыніўся рух на чыгунках, трамваях і г. д.**

---

*Беларусы, пішыце ў „Беларускую Справу“ аб жыцьці—быцьці нашае вескі, аб крыўдах, зьдзеках і паняверцы, робленых вам адміністрацыяй, аб гмінных справах, школе і г. п.—пішыце аб сваіх ворагах і прыяцелях. Пішыце коратка і ясна, падаючы дакладна факты. У карэспандэнцыі канешна падавайце адрэс свой і скуль карэспандэнцыя. Пішыце свае прозьвішча (толькі для ведама рэдакцыі), бо бяз адрэсу і прозьвішча карэспандэнта карэспандэнцыі зьмяшчацца ня будуць.*

---

нашую літэратуру сваімі творамі. Ім на зьмену йдзе новае пакаленьне „Маладняк“, ці саюз маладых літэратараў. Калі не памыляюсь, то ёсьць іх у саюзе ўжо каля 240 чалавек. Гэта па большай часьці яшчэ зялёная, але здольная моладзь. З-пад іх пяра выходзяць творы бадзёрыя, жывыя, поўныя агня, прытарнаваныя да новага жыцьця.

Есьць сярод маладнякоўцаў людзі з вялікімі здольнасьцямі, якія пакуль-што, шукаючы новых форм, блукаюцца і не знаходзяць уласнага шляху. З гадамі гэта пройдзе і пойдуць творы больш салідныя, больш дасьпелыя. А шмат з іх так і застануцца „пачынаючымі“ паэтамі, ці празаікамі на цэлае жыцьцё; заматаюцца ў жыцьцёвым моры, апошляцца, закінуць агульную адукацыю, а часам і проста сап'юцца. Праўда, ёсьць сярод „Маладняка“ і такія, якія пасьпелі заявіць аб сабе сваей творчасьцю, так што імя іх напэўна застанецца ў беларускай літэратуры. К такім можна аднясьці Міхася Чарота, Гурло, Бабарэну, Вольнага, Крапіву і інш. Будзем спадзявацца, што гэтыя маладыя дубкі дагоняць старэйшыя і прынясуць ня менш прыплоду за апошніх. Няхай кожны з іх заслужыць таго пачэснага мейсца, якое займае Янка Купала, які правільна названы „Народным Паэтам“. Мусім спадзявацца, што пявец нашае вёскі, наш баян прыгожай беларускай літэратуры, Якуб Колас, таксама, як і брат па пяру Янка Купала, атрымае заслужанае і пачэснае мейсца.

### Тэатр.

Калі я зусім аб'ектыўна апісываў сваю падарожу па С.С.Р.Р., то ў некатарых газэтах былі заметкі, што я „захвыцоны“ ўсім тым, што бачыў. Праўда, бачылі нямала прыемнага і наадварот. А вось, прыступаючы да апісаньня беларускага тэатру, мушу прызнацца, што, праўда, быў „захвыцоны“. Я верыў і веру ў творчую здольнасьць нашага народу. Я ведаю, што суседзі з Усходу і з Захаду ня раз карысталіся нашымі талентамі, каб узбагаціць сваю культуру, сваё мастацтва. І вось настаў час, калі ўсе нашы творчыя сілы, працаваўшыя дагэтуль для чужынцаў, вярнуліся на родную зямельку і дружна прыступілі да працы на карысьць роднаму народу.

Я чакаў, што праца Беларускага Дзяржаўнага Тэатру будзе пастаўлена добра. І праўда: трудна чакаць большага ад маладога тэатру, які ня толькі іграець, але і творыць. На жаль, будынак старога мястовага тэатру не адпавядаець сваім заданьням. Есьць думка расшырыць яго, або збудаваць новы. Апошняе было-б правільней, бо прыходзіцца дзяліцца з жыдоўскім тэатрам і іграць па чарзе, — а тады кожны тэатр мясьціўся-бы ў уласным будынку. Зацікаўленасьць жыхароў вялікая, бо амаль не заўсягды білеты бываюць раскуплены да 5 гадз.

Бачыў „Каваля Ваяводу“, „Кастуся Каліноўскага“ і „Чырвоную Маску“. Першые дзьве п'есы—твора артысты Міровіча, апошняя — пераклад з расейскага—Луначарскага. Дэкарацыя багатая і прыстасована як найляпей да п'ес, якія разыгрываюцца на сцэне. У „Кавалю Ваяводзе“ ёсьць маленькая сцэнка: „Жніво“. Гарачы дзень. Жнейкі і жняцы жнуць і пяюць песьні. Так і веець ад іх роднай вёскай, родным полем. Слаўны хор Тэрраўскага і тут паказаў сябе, і, як прыкуты, слухаеш яго, слухаеш песьню працы, песьню сялян беларускіх. Трудна навет у некалькіх славах і перадаць усё тое, што адчуваеш у гэты час. Скажу толькі, што такое прыемнае і захапляючае ўражаньне рабіў на мяне Маскоўскі „Художественный“ Тэатр.

Акрамя Белар. Дзярж. Тэатр. ёсьць яшчэ так-званы „вандроўны“ тэатр Галубка, мэта якога—аб'яжджаць правінцыяльныя мястэчкі і ставіць спэктаклі для правінцыі.

У Маскве ёсьць яшчэ дзьве студыі: адна — беларуская, другая — жыдоўская. Студыі гэтыя канчаюць у гэтым годзе сваю падрыхтоўчую працу. З наступнага году яны пачнуць працаваць у Б. С. Р. Р., як дзяржаўныя тэатры. Сталым мейсцам пабыту назначаецца для беларускай студыі—Віцебск, а для жыдоўскай—Менск. Апрача гэтага, будуць адбывацца гастролі гэтых тэатраў па іншых гарадох.

У Маскве прышлось пабываць сярод студыйцаў. Усё гэта моладзь, поўная жыцьця і запалу. Праходзяць салідную школу пад кіраўніцтвам вядомых артыстаў, і можна спадзявацца, што вернуцца ў Беларусь салідными фахоўцамі. Люба было бачыць іх, як астравок беларускіх культурнікаў сярод расейскага мора. — Жыдоўскіе студыйцы досіць добра ведаюць беларускую мову і знаёмы з беларускай культурай. Лічаць сябе сынамі Беларусі і ў чэсьць яе з вялікім запалам прапяялі беларускую марсэльезу: „Ад веку мы спалі“...

Слава тэатральным кіраўнікам, якія кінулі чужыя сцэны і твораць роднае мастацтва. Слава і тым, хто ў гэтым ім дапамагае.

Пасол **М. Мятла.**

(Канец будзе).

# З Сойму.

## Паседжаньне Сойму дня 28./IV.

Паседжаньне мела вельмі бурны характар і было багата інцыдэнтамі. На парадку дня: другое чытаньне бюджэту на май і чэрвень ды трэцьцяе чытаньне ўставу аб цынковай прамысловасьці.

„Robotnik“ (№ 117) гэтак малюе галоўныя мамэнты дыскусіі аб бюджэце.

На салю ўваходзіць міністар скарбу Зьдзеховскі, каторага апазіцыя вітаець крыкамі. Пасол **Санойца** (Stronnictwo Chłopskie), гаворачы ў той момант аб зладзействах у ўстановах, аб учасьці ўлады ў пахаронах чалавека, абакраўшага скарб, аб крыўдзе польскіх эмігрантаў, зьберажэньні якіх у польскіх банках утрацілі сваю вартасьць, — зьвяртаецца да пана Зьдзеховскага: „Пане Міністар,—кажа ён, — калі-ж скончацца гэтыя зладзействы, толерованыя праз урад“? (На лявіцы шум, адзін голас: міністар зладзеяў!).

Віцэ-Маршалак **Дашыньскі** (ППС): „Таго пасла, каторы гэта сказаў, прызываю да парадку!“.

Пасол **Паляневіч** (Stronnictwo Chłopskie): я гэта сказаў!..

У справе інцыдэнту браў пасьля спэцыяльна слова пасол **Брыль** (Stronnictwo Cłopskie), які заявіў:

„У часе прамовы пасла Санойцы пасол Паляневіч ужыў па адрасу міністра скарбу Зьдзеховскага і міністра зямельных рэформ слоў, за каторыя быў пакліканы да парадку. Ад імені нашага клюбу заяўляю, што ўвесь клюб салідарызуецца з пасолм Паляневічам і закіды, зробленыя ім міністрам,—паддзержываець“.

Проціў бюджэту высказаліся паслы: **Варшаўскі** (ад камуністычнага клюбу), **Діаманд** (ад ППС), **Рэйх** (жыдоўскае кола), **Тарашкевіч** (Белар. Сялянска-Работніцкая Грамада), **Васынчук** (Украінскі Клюб) паслы з „Stronnictwa Chłopskiego“ і „Wyzwolenie“.

200 галасамі проці 143 бюджэт прыняты. Устаў аб цынковай прамысловасьці прыняты 141 голасам проці 138. У гэтай справе апазіцыя ня менш рэзка выступіла ў дыскусіі проці ўрадавага праекту. Сцьверджана, што ўрад **даровываець фірме Гішэ 30 мільёнаў падатку**, што ўрад, апраўдываючы гэты свой крок жаданьнем падтрымаць развой „цынковага промыслу“—ўкрываець праўду, бо маніцца толькі аддаць кіраўніцтва фірмай з нямецкіх рук — польскім фабрыкантам. Фірму паводлуг думкі апазіцыі, трэба зьліцытаваць, калі яна ня можа заплаціць падатку, зліцытаваць, як гэта робіцца з маемасьцяй банкрутаў, а пасьля купіць з таргоў і вясьці далей. Дзяржава на гэтым толькі-б выйграла, як і цынковы промысл. Робяцца закіды, што міністры асабіста заінтэрасаваны ў правядзеньні ўставу, што ўстаў мае характар подкупу.

Пасол **Соха** (Stron. Chłopskie) наводзіць падобныя прыклады з мінуўшчыны: за пратэкцыю ў міністра Керніка ў справе куплі дрэва—партыя Пяст мае атрымаць 10.000 зл. Чытаньне пісем аб гэтым вызывае новыя інцыдэнты.

Маршалак прызываець да парадку. Пасьля галасаваньня, якое адбывалася аж 2 разы і рэзультаты якога паданы вышэй,—паседжаньне зачынена. Тэрмін наступнага паседжаньня назначаны на 5 мая ў 4 гадз. па палудні.

## Незалежная сялянская партыя ў справе рэдукцыі.

У № 9 „Niezałeżnego Chłopa“ памешчана соймавая прамова пасла Баліна, дзе ён формулуе становішча сваей партыі ў справе рэдукцыяў гэтак:

„Жадаема рэдукцыі зьверху. Мы ўжо падавалі тутка пры першым чытаньні бюджэту прапазіцыю аб зьмяншэньні пасольскіх дыет і пэнсіяў вышэйшых чыноўнікаў. Лічыма, што Польшча, знаходзячаяся ў вялікай бядзе, ня мае права мець пэнсій для чыноўнікаў вышэйшых, як 6 катэгорыя. Панове адказалі нам жартамі і лічылі лепшым рэдукаваць урадоўцаў 14, 15 і 16 катэгорыі. Мы пратэстуем проціў гэткіх рэдукцыяў. Дамагаемася рэдукцыі лічбы вышэйшых чыноўнікаў і іх пэнсіяў, пры тым не на сьмешныя 6 проц., як вы гэта зрабілі з паслами, сэнатарамі міністэрскімі ўрадоўцамі, генараламі і г. д., але на 50 проц.

Толькі пасьля гэтага вы будзеце мець права лезьці ў кішэнь чыноўнікаў 14 і 15 катэгорыі. Але, калі абрэзываеце ім галадовыя пэнсіі і адначасна плаціце па $1^{1}/_{2}$ тысячы і 2 тысячы злотых месячна розным вышэйшым урадоўцам, калі дырэктары банкаў, з пратэкцыі сільных гэтага сьвету, бяруць па 5 і 10 тысяч месячна,—ня маеце права лезьці ў кішэнь чыноўнікам 10 ці 11 катэгорыі.

Далей дамагаемася рэдукцыяў выдаткаў на ўваружэньне і паліцыю. У гэтай справе ўжо большасьць навет буржуазных групаў прыйшла да перакананьня, што рэдукаваць трэба.

Толькі інтэрас капіталістаў і абшарнікаў, каторыя баяцца гневу мас і ўтрымліваюць апарат мілітарна-паліцэйскі для душэньня выбухаў гэтага гневу, а з другой стараны—дыспазыцыі заграцічных капіталістаў, не пазваляюць вам адважна рэдукаваць выдаткаў на ўзбраеньне. Аднак толькі „сіęcie“ адважнае, моцнае, балючае па цэлым арганізьме ваеншчыны і паліцыі дасьць карысьць для бюджэту.

Чацьвертым спосабам направы ўважаема спагон з абшарнікаў і капіталістаў усей незаплачанай часьці маёнтковага падатку“.

# Важнейшыя здарэньні.

# У Польшчы.

## Замах на міністра Зьдзеховскага?

Ад некалькіх дзён ходзяць погаласкі аб замаху на міністра Зьдзеховскага. Вечарам 23/IV на падворку Рады міністраў група невядомых людзей чакала на заканчэньне паседжаньня Рады. Недачакаўшыся канца, асобы гэтыя пайшлі пад прыватную кватэру міністра. Уночы з суботы на нядзелю знойдзена на дзвярох пана Зьдзеховскага паперка з абразьлівымі пагрозамі. Называюць у іх міністра злодзеем, абкрадываючым ваенны бюджэт (?).

Колькі дзён перад тым да гаражу, дзе стаіць аўтамабіль мін. Зьдзеховскага, прыйшоў нейкі ваенны і распытываўся, дзе і калі езьдзіць Міністар. Калі гэта мела-б быць праўдай,—дык сьведчыла-б аб тым, што фашыстаў навет проці-сялянскі і проці-работніцкі праект бюджэту міністра Зьдзеховскага не здаволівае, і яны „па своему“ хочуць распраўляцца.

У гэтай справе група сэнатараў падала інтэрпэляцыю старшыні Рады міністроў з просьбой аб выясьненьне.

## Рост групы Брыля.

Паслы Адамовіч, Вэндзягольскі і Дубровік увайшлі ў склад групы Брыля.

## Катастрофа ў паветры.

27/IV пры пахаронах у Варшаве палкоўніка-лятуна Серэдніцкага, зваліўшагося з папсованым аэраплянам далоў,—над магілкамі кружыла эскадра, зложаная з 4 аэраплянаў. Раптам два апараты рунулі ўніз. Забіты сэржант Бпіэзіна, цяжка ранены мэханік Шадлевіч. 3-ці апарат, зачэплены падаючымі, спусьціўся шчасьліва. Толькі тады было заўважана, што з ягоываліўся ў мамэнт удару штабовы мэханік—Гронадскі. Упаўшы, ён урэзаўся на $^{1}/_{2}$ мэтра ў зямлю, і на мейсцы панес сьмерць.

## Перад забастоўкай кін у Варшаве.

21/IV мінуў тэрмін, у які Магістрат Варшавы меў даць адказ кінам на іх дамаганьне зьменшыць падатак з кін. Дэлегаты саюзу кінэматографаў зьвярнуліся 22/IV ў Магістрат, дзе ім адмоўлена ў просьбе.

У зьвязку з гэтым на паседжаньні Саюзу кінэматаграфшчыкаў пастаноўлена прыступіць да ліквідацыі кін.

Пэрсаналю музычнаму, а таксама тэхнічным работнікам, адмоўлена служба ад 1 чэрвеня.

Кіны будуць ступнёва зачынены, пачынаючы ад 1-га чэрвеня. Ад 26/IV усе кінэматографы складаюць да сваей забастовачнай касы па 2% ад абароту.

## Пасада ката ў Польшчы.

Пры частых даразных судох, каторыя канчаюцца бадай заўсёды сьмяротным прыгаварам,— экзэкуцыю выконывала дагэтуль войска.

Цяпер на пасаду гэту назначаны спэцыяльны дзяржаўны ўрадовец—кат. Кат ходзіць у чорным сурдуце, лякерках і белых рукавічках; езьдзіць, як вышэйшы чыноўнік, 1-ай клясаю ў поезьдзе. Першы выступ меў кат у Перамышлі. Адна польская газэта жаліцца, што „niestety kat nieta pomocników narazie“ (кат пакуль-што ня мае сабе памоцнікаў!).

Сьмяротная кара—гэта ганьба нашага веку!

# Заграніцай.

## Польска-радавыя адносіны псуюцца.

На закончаньні сэсіі Выканаўчага Комінтэру СССР, заступнік камісара заграцічных спраў—Літвінаў—у справе ўзаемаадносін з Польшчай высказаўся гэтак:

„На жаль, пэўныя ўнутраныя і вонкавыя ўплывы ў Польшчы перашкодзілі палітычнаму і гаспадарчаму паразуменьню з СССР.

Робленыя з боку Рад спробы паразуменьня з Польшчай разьбіліся аб жаданьне Польшчы гаварыць ад імя ўсіх балтыцкіх дзяржаў. СССР не прызнаець пратэктарату Польшчы над балтыцкімі дзяржавамі.

Аднаўленьне польска-румынскага ваеннага саюзу ўтрудняець яшчэ больш паразуменьне.

У рэзультаце гэтага не праводзіцца ў жыцьцё і гандлёвая ўмова Польшчы з СССР“.

## Беспартыйныя ў СССР.

У Маскве адбылася публічная дыскусія аб тым, як трэба аднасіцца да беспартыйных. Камісар асьветы Луначарскі ў вялікай прамове заявіў ад імя ўраду, што беспартыйныя—вялікая рэальная сіла ў краі, без якой ня можна будаваць жыцьця. Камуністычная партыя прызнае ня толькі беспартыйных работнікаў і беспартыйную сялянскую беднату, але навет—беспартыйных сярэднякоў.

## Нямецкі народ ня хоча плаціць „выкуп“ сваім былым валадаром!

Як ні стараўся сучасны нямецкі буржуазны паўманархічны ўрад правясьці праз парлямант закон аб добрым „адшкадаваньні“ былым сябрам „пануючых родаў“—за канфіскаваныя ў іх рэвалюцыяй маемасьці, уся гэтая справа пакуль што правалілася ў парляманьце і адложана—на народнае галасаваньне.

Справа ў тым, што гэтых „сяброў“ усялякага роду і разьмеру ў Нямеччыне — такая маса, што навет наагул можа крыху „манархічны“ але і практычны нямецкі „народ“ аж у жах ударыла патрэбная на гэтыя „адшкадаваньні“ сума. У былой Нямецкай Імпэрыі было аж каля 40 розных „каралеўстваў“ ды „княэьстваў“—з сваімі „пануючымі родамі“, якія, ведама-ж, з жыру ды вайсковага гультайства пладзіліся, як пацукі... Дый наплазілася гэтых „сяброў“, як і ў царскай Расеі „вялікіх князёў“, — тысячы! А пазахоплівалі яны сабе, як і нашы „вялікія“—на падставе „гістарычных правоў“—найлепшыя кавалкі зямлі — лясы, лячэбныя крыніцы (курорты), маёнткі, цэлыя гарады і т. п... Якая там ні была „рэвалюцыя“ ў Нямеччыне, але і тая ўсё-ж адабрала „прыраджоным валадыром“ усе гэтыя „гістарычныя“ маемасьці... І вось цяпер нямецкая паўманархічная рэакцыя сіліцца хаця-б частку ўсяго гэтага вярнуць сваім былым „манархам“ — хаця-б у відзе „адшкадаваньняў“.

Калі ўрад падаў у парлямант закон аб адшкадаваньні, тады сацыял-дэмакраты, каб сарваць справу, заявілі, што трэбуюць перадаць рашэньне пытаньня — на народнае галасаваньне. Бо—гэткі спосаб прадбачыць нямецкая Канстытуцыя.

Але ўрад усьцяж фарсаваў законапраект. І толькі тады, калі пробны плебісцыт даў 12 мільёнаў галасоў проці адшкадаваньняў, энэргія паўманархічнага ўраду адразу астыгла. Усе прапазіцыі кампрамісу юрыдычнай камісіяй парляманту былі адкінуты, і 30 траўня мае ўжо сам народ аканчальна рашыць, ці хоча ён плаціць былым сваім „валадаром“ за адабраныя маёнткі, ці не. Правыя газэты пішуць, што гэткім шляхам найлепш будуць сцьверджаны „манархічныя пачуцьці“ нямецкага народу...—Пэўна ж: найляпей, калі народ разумее каштоўнасьць для яго кішані яго валадароў.

„Добра мецi пана, а ляпей—ня мецi“, як пяяў наш Янук...

## Страшныя цыфры.

Нямецкі капальняны ўрад апублікаваў статыстыку нешчасьлівых выпадкаў у нямецкіх капальнях вугальля за 1925 год. Гэта статыстыка марозіць у жылах кроў.

За 1925 год зьгінула, або цяжка пакалечана 74.258 работнікаў у нямецкіх капальнях. На адзін дзень, значыць, выходзіла сярэдня 203 або 204 ахвяры. У 1924 г. лік ахвяр сярод вуглякопаў даходзіў да 65.698 людзей. Частыя няшчасьці ў капальнях—гэта рэзультаты ненасытнасьці капіталістаў, каторыя дбаюць толькі аб даходах і ня хочуць выдаваць грошы на тэхнічныя палепшаньні, забясьпечываючыя работнікаў ад сьмерці і калецтва.

# Тэкст радава-нямецкага трактату.

Як падае П. Т. А., трактат між Нямеччынай і СССР выглядае гэтак:

„Імкнучыся ўчыніць усё, што можа прычыніцца да агульнага міру, і перакананыя, што інтарэсы нямецкага народу і народаў радавых рэспублік вымагаюць сталага, абапертага на ўзаемнай веры супрацоўніцтва, урад нямецкі і ўрад савецкіх рэспублік пастанавілі: істнуючыя паміж імі прыязныя адносіны ўзмацаваць заключэньнем спэцыяльнага трактату. З гэтай мэтай упаўнаважыў урад нямецкі міністра заграцічных спраў Штрэзэмана, а ўрад СССР высланьніка Крэсьцінскага абмяняцца наступнымі пастановамі:

Арт. І. Трактат у Рапальлё астаецца падставай адносін між Нямеччынай і СССР. Урад нямецкі і ўрад радавы астаюцца ў прыязным кантакце дзеля ўзаемнага паразуменьня ў-ва ўсіх справах, датыкаючых інтарэсаў палітычных і гаспадарчых.

Арт. ІІ. Калі адна з старон, заключаючых трактат, будзе, ня гледзячы на мірнае становішча, заатакована праз адну, ці больш трэціх дзяржаў,—дык другая старана, заключаючая трактат, будзе дзяржацца нэйтральнасьці праз увесь час трываньня конфлікту.

Арт. ІІІ. На выпадак конфлікту гэтакага роду, як паказана ў арт. ІІ, а таксама на выпадак, калі-б у часе, калі ніводная з старон, падпісываючых трактат, ня будзе замешана ў ваенныя конфлікты,—паміж іншымі дзяржавамі было заключана коаліцыя, з мэтай правядзеньня байкоту гаспадарчага, або фінансавага адносна да аднаго з контрагентаў, другая старана абязываецца не прыступаць да гэтакай коаліцыі.

Арт. IV. Трактат мусіць быць ратыфікованы, а дакумэнты ратыфікацыйныя абменены ў Бэрліне. Трактат уваходзіць у жыцьцё пасьля абмену ратыфікацыйных дакумэнтаў і будзе абвязываць у працягу 5 гадоў, а контрагеты пасьля гэтага тэрміну паразумеюцца ў справе далейшага ўнармаваньня ўзаемных палітычных адносін.

На доказ таго ўпаўнаважаныя падпісалі гэты трактат, уложаны ў 2 экзэмлярах у Бэрліне 24/IV—1926 г.

(—) **Штрэзэман**, (—) **Крэсьцінскі**.

У некатарых капальнях уласнікі ад 1914 г. не рабілі ніякага рэмонту.

### Ваенная служба ў Бэльгіі.

Бэльгійскі парлямант 103 галасамі проці 61 прыняў закон аб 10-месячнай ваеннай службе— замест 12 месяцаў, як было дагэтуль. Закон гэты не датыча службы ў спэцыяльных атрадах.

### Даўгі Францыі.

Паводлуг аблічэньня сэкрэтара амэрыканскага скарбу і францускага высланьніка там-жа—францускі доўг Амэрыцы мог-бы быць сплачаны наступным спосабам. У працягу 5 гадоў 5 мільёнаў фунтаў, далей 8 мільёнаў у працягу 6 гадоў. Пасьля 11 гадоў сплаты былі-б падвышаны да 25 мільёнаў фунтаў на год. Доўг урэгулюецца ў працягу 62 гадоў.

Як бачым, ня толькі ўчасьнікі вайны пакутавалі і, паскольку ня былі забіты, пакутуюць ад яе. Некалькім пакаленьням прыйдзецца нясьці на сабе цяжар-руіны, прычыненай вайной.

### Міравыя перагаворы з Абд-Эль Крымам.

Француская і гішпанская старана падала галаве дэлегацыі Рыфэнаў ноту, у якой высказана розьніца паглядаў адносна варункаў міру, а такжа пагрозы, што ў выпадку няпрыняцьця гэтых варункаў Францыя і Гішпанія распачнуць узноў ваенныя крокі.

Тэрмін адказу вызначаны на 6 мая ўвечары. Дэлегаты Рыфэнаў выехалі дзеля паразуменьня з сваім урадам.

### Ваенныя падрыхтаваньні Турцыі.

Не дабіўшыся ад Турцыі згоды на аддачу Англіі захопленага гвалтам Мосулю, але сам баючыся вайны з Турцыяй, англійскій ўрад ужыў сваю старую подлую тактыку—правакаваньня вайны з сваім ворагам, каб пабіць яго чужымі рукамі. Дзеля таго сам Чэмбэрлен змовіўся з Мусоліні, а адначасна—даў грошы генаралу Пангалёсу на—абвешчаньне сябе дыктатарам Грэцыі, — дый нацкаваў абодвух—на Турцыю, дазваляючы Італіі і Грэцыі—ў выпадку вайны—захапіць вялізарныя кавалкі турэцкай зямлі ды абяцуючы яшчэ і дапамогу аружжам ды грашмі... Тады Турцыя, якая, ведама-ж, ня можа вытрымаць вайны з такой каліцыяй, хацела ўжо прасіць пардону дый аддаць Англіі Мосуль... Але тут падасьпеў Чычэрын дый запрапанаваў туркам дапамогу ССРР. У выніку гэтага Кемаль-паша заявіў, што гатоў ваяваць, і—пачаў рыхтавацца да вайны. Дык ня ведама яшчэ, што будзе далей. — Але пагроза вайны — значная.

## Работніцкае жыцьцё.

**Забстоўкі элентромонтэраў.** Электромонтэры, працуючыя ў Аб'яднаным Электрычным Т-ве пры работах на пераменным току, з прычыны таго, што іхнія дамаганьні, прадстаўленыя дырэкцыі прадпрыемства, адкінены,—аб'явілі 28./IV. забастоўку.

**Спор у віленскіх шкляных гутах.** З прычыны неўрэгуляваньня варункаў працы работнікаў двух мяйсцовых шкляных гутаў—між гэтымі апошнімі, і ўласьнікамі гут распачалася барацьба. Работнікі дамагаюцца ўвядзеньня гэтакіх варункаў працы, як у ўсіх гутах паза Вільняй.

**Саюз чыгуншчыкаў рыхтуецца да забастоўкі.** У зьвязку з „аздараўленьнямі“ мін. Зьдзеховскага, зачапляючымі таксама работнікаў на чыгунцы, — Управа Саюзу чыгуншчыкаў на паседжаньні 19-га г. м пастанавіла выступіць проціў гэтых плянаў. З гэтай мэтай выдана адозва да сяброў і анкета, у каторай кожны мае высказацца каротка: „за забастоўку“, або „проціў“.

**Аграніčаньне акцыі помачы безработным.** Як даносіць „Robotnik“ (№ 117), на паседжаньні Галоўнай Управы „Funduszu Bezrobocia“ (фонду для безработных) 26-га г. м. аграніčана помач безработным у цэлым радзе мяйсцовасьцей. Так у пав. **Беластоцкім** выключаны гміны, якія ляжаць далей ад места Беластоку. У окрузе Лодзкім — мястэчка Аляксандраў і гм. Мошчэніцэ і Каміньск. У окрузе Домбровскім—гм. Севеж, Козеглувкі, Жарновіць і Крочыцэ. Акрамя гэтага, затрымана помач безработным павету Быдгоскага, Бжозовскага, далей у цукраварні „Жытня“, у мястэчках Саколцы і Крынках, у павеце Радзіміньскім, Блоньскім, Вадавіцкім і ваяводстве Варшаўскім.

Прычына—„лягчэйшы заработак“ па думцы Ураду—у зьвязку з веснавымі работамі.

Рэзультаты пастановы ўжо далі сябе адчуць: двух безработных з цукраварні „Жытня“, дзе спынена помач, памерлі з голаду.

**Арышты перад першым маем.** У ноч перад першым маем палітычная паліцыя ў Варшаве зрабіла рад вобыскаў, арыштовываючы пры гэтым панад 100 камуністаў.

Уначы з 29 на 30 у Нова і Старасьвянцянах арыштаваны 23 асобы.

У ваяводзтве Станіслаўскім арыштавана перад 1 маем—80 асоб.

Аб арыштах у Вільні і іншых месцах—ведамасьцей яшчэ няма.

**Справа пінскіх камуністаў.** У 1925 г. палітычная паліцыя ў Пінску арыштавала 30 асоб, абвінавачаных у прыналежнасьці да камуністычнай партыі Польшчы. Акружны Суд у Пінску засудзіў 7 абвінавачаных на катаржную турму ад 3 да 6 гадоў, з пазбаўленьнем грамадзкіх правоў, другіх 7 на заключэньне ў крэпасьці ад $2^1/_2$ да 4 гадоў.

Засуджаныя зьвярнуліся да Апэляцыйнага Суда, 30./IV. справа іх разглядалася ў Вільні.

Абвешчаны прыгавар зьменшыў кары некаторым засуджаным, але адначасна звольненых Акружным Судом Б. Футэрмана, Х. Кота, П. Фэтман і Х. Якшэр засудзіў на 3 гады крэпасьці кожнага.

**Новы вялікі працэс у Львове.** 12-га IV. ў Львове распачаўся працэс проці пятнаццацёх асоб, арыштаваных у леташнім годзе пасьля забіцьця Ботвінам праваказатара Цеханоўскага.

## ХРОНІКА.

**Хвароба беларускага паэта К. Сваяка.** У Вільню прывезены з Закапанага хворы на сухоты ведамы беларускі паэт К. Сваяк (кс. Стэповіч), аўтар зборніку вершаў „Мая Ліра“. Хворы ляжыць у літоўскай клініцы. Стан яго дужа цяжкі.

**Беларускія студэнты аб „Тымчасовай Радзе“.** 28-га красавіка адбыўся агульны сход Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.

На парадку дзенным стаяла пытаньне аб адносінах Беларускага Студэнцкага Саюзу да Беларускай Тымчасовай Рады.

Пасьля кароткага дакладу і дыскусіі над ім была прынята такая рэзалюцыя:

„Беларускі Студэнцкі Саюз, як арганізацыя беларускага Студэнцтва Унівэрсытэту Ст. Баторага ў Вільні, сабраўшыся на сходку 28 га красавіка 1926 г. і абгаварыўшы справу пісьма гр. Паўлюкевіча ў № 11 „Беларускага Слова“, аднагалосна пастанавіў:

1) Беларускі Студэнцкі Саюз, як аб'яднаньне студэнтаў-беларусаў Віленскага Унівэрсытэту—бяз розьніцы палітычных напрамкаў, — з агідай адкідае закід, зроблены беларускаму студэнцтву ў памянёным пісьме і часопісі гр. Паўлюкевічам, які ўсіх студэнтаў-беларусаў, нязгодных з яго палітычным напрамкам і мэтадамі дзейнасьці, называе прадажнымі і знаходзячыміся на чым-небудзь утрыманьні.

Мы, студэнты-беларусы, з гордасьцю заяўляем, што беларускае студэнцтва астаецца дагэтуль вернае тым ідэалам, за якія бароліся і аддавалі свае жыцьцё нашыя старэйшыя сябры і папярэднікі — студэнты-беларусы, як Аўгень Хлябцвіч,—а ідэаламі гэнымі зьяўляюцца Воля і Дабро ўсяго беларускага працоўнага народу;

2) Беларускі Студэнцкі Саюз пратэстуе проціў уцягіваньня студэнтаў беларусаў на шлях палітычных орыентацый і надзяленьня нас орыентацыей сваей „Тымчасовай Рады“.

3) Беларускі Студэнцкі Саюз, як арганізацыя апалітычная, рашуча заяўляе, што як сама арганізацыя, так і паасобныя яе сябры, ня мелі і ня маюць нічога супольнага з „Беларускай Тымчасовай Радай“, яе працай і напрамкам, а заадно і з гр. Паўлюкевічам, які робіць кар'еру ў барадзьбе з заслужонымі і паважнымі беларускімі дзеячамі і які да 1920 году з беларускай справай ня меў нічога супольнага.

4) Беларускі Студэнцкі Саюз далучаецца да голасу сваіх пражскіх сяброў, высказаўшыхся 20./III. 1926 годзе аб гр. Паўлюкевічу, і з свайго боку выражае пашану заслужонаму культурнаму працаўніку, дзеячу і пісьменьніку гр. Антону Луцкевічу,—выступленьні ж проці яго, у тэй форме, ў якой гэта робіць Паўлюкевіч, уважае за нягодную спробу кампрамітаваньня незалежніцка нацыянальнае справы Беларускага Народу“.

Старшыня Агульн. Сходу (—) **Іг. Гоголінскі.**

Сэкрэтар (—) **М. Шавель.**

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Таварыства гэтым высказвае сваю падзяку грамадзянам, прыслаўшым свае ахвяры ў музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні:

1) **Панкевічу Андрэю ў Даўгінаве** — за модэль „смыка“ (бараны), 10 манэт, 2 акамянеласьці, старую люльку і засьцёжку ад кнігі;

2) **Мікалаю Навойчыку ў в. Вузьлянах, Вялейск. пав.**—за 50 манэт медных, 10 манэт сярэбр.;

3) **В. С—му ў Даўгінаве**—8 манэт.

4) **Раману Гулевічу** ў в. С.-Бухаўшчына, Маладэчанскай гм.—за 1 медную манэту.

**Праект устанаўленьня новых тэрмінаў аплаты сялянамі падаткаў.** Міністэрства Зямляробства зьвярнулася да Міністэрства Скарбу ў справе выданьня загаду, каб усе „nakazy płatnicze“ былі прысыланы сялянам найменш на тры месяцы перад тэрмінам аплаты, і каб усе падаткі на самаўрады і іншыя ўстановы маглі быць спаганяны толькі ў двух тэрмінах: вясной і восеньню — разам з ратамі грунтовага падатку.

**У справе росту дарагоўлі.** Міністэрства Унутраных Спраў разаслала ваяводам новы цыркуляр, паводлуг якога купцы маюць права прадаваць тавары па гэткай цане, каб мелі магчымасьць адкупіць яго пасьля ў аптавікоў. Цэны на тавары, устаноўленыя паводлуг гэтага прынцыпу, ня будуць лічыцца ліхвярскімі.

Калі прыпомнім, што такога прынцыпу купцы дзяржаліся ў часе інфлянцыі польскай маркі, дык трэба думаць, што факт выданьня такога цыркуляру мае на мэце падгатоўку да падобнага зьявішча ў хуткім часе...

**Афіцыяльны курс грошы на 5 траўня.** Даляр — 9 зл. 90 гр. Залаты рубель — 5 зл. 09 грошы.

5. V. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10 зл. 30 грош.

## Пасольскі мітынг.

**Дунілавічы.** 13 красавіка адбыўся тут мітынг (веча) беларускіх паслоў з Сялянска-Работніцкай Грамады. Прамаўлялі Тарашкевіч і Мятла. Яшчэ нядаўна панавала тутака „Вызваленьне“, а цяпер няведама навет дзе й падзелася. Прыяжджаў, праўда, часам пасол Галка дый той зусім страціў веру ў народзе. Так і кажуць адно на языку, другое на вуме, трэцьцяе на дзеле.

Прыяжджаў тут Шапель з Незалежнай Партыі Хлопскай; народ хацеў паслухаць але паліцыя разагнала. Аб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе народ ведае і з вялікай увагай і зацікаўленьнем слухаў, што казалі паслы.

А казалі яны аб розных нашых бедах і аб розных злыднях: аб зямлі, аб школе, аб падатках, аб безрабоцьці, аб войску, паліцыі і адміністрацыі і школе.

Прынялі рэзалюцыю такую: дамагацца зямлі бяз выкупу для мяйсцовага сялянства, пералажэньня падаткаў з працуючага народу на багатыроў, спагнаць 700 міліёнаў маёнтковага падатку з абшарнікаў і капіталістаў, паменшыць войска, паліцыю і адміністрацыю, для безработных гораду і вёскі наладзіць публічныя работы і дастатачныя дапамогі, дамагацца роднае школы, амністыі для палітычных.

Паслы маглі пераканацца, якая бяда на вёсцы, поўная галіта, зьбядненьне і безрабоцьце. Людзям няма куды дзецца. Каб можна было, то проста палавіна вёскі выехала-б у Расею ці куды. Куды ехаць і як выехаць, вось пытаньне, з якім зьвярталіся да паслоў увесь час.

У Дунілавічах Грамада знойдзе добры грунт для свае работы.

Трэба адзначыць адно што спадабалася сялянін у выступленьнях „грамадзянскіх“ паслоў. Гэта тое, што яны не заманіваюць сялян салодкімі абяцанкамі. Яны завуць сялян да арганізацыі, бо ў арганізацыі сіла, толькі ў грамадзе можна дабіцца лепшае будучыны.

**Тутэйшы.**

## З жыцьця Горадні.

× **Вобыск у беларускага дзеяча.** 30/IV 1926 г. зраблены вобыск у кандыдата ў Сойм ад Бел. Сял.-Работн. Грамады, Мікалая Якімовіча.

Пры рэвізіі забралі газэты № 20 і 19 „Незалежны Хлоп“ і розныя справаздачы для беларускай газэты, бо Якімовіч зьяўляецца Карэспандэнтам „Беларускае Справы“.

## Карэспандэнцыі.

### „Лекарская помач“.

(Вялейшчына).

У той час, калі агульнае наша жыцьцё як-бы замёрла, калі для сялян і рабочых стварыліся вельмі цяжкія варункі жыцьця ад адсутнасьці заработкаў,—у нашай Гарадоцкай гміне, а думаю і па ўсей нашай многапакутнай Заход. Беларусі, ёсьць жменька людзей, якім „і ў нас Амэрыка“. Гэта мэдыцынскі пэрсанал і аптэкары, зарабляючыя „паамэрыканску“.

Асабліва гэта відаць цяпер, калі на нашых дзяцей напала эпідэмія водры. Няма амаль тэй хаты, куды-б не заглянула гэта хвароба. Есьць у нашай гміне доктар, два запраўдныя фэльшары, а салдатаў, навучыўшыхся на службе мазаць больку ёдам і даваць хворым на жывот рыцынку, трудна і пералічыць. Дык вось, як зьявілася месяцы сада назад водра, гэта кучка людзей ад рана да вечара, а нярэдка і ўначы, зразумела, за плату ў некалькі разоў большаю, як днём. Сколькі-ж бяруць за выезд нашы дактары? Нямнога—доктар за дзьве-тры вярсты з Гарадка 4-5 пудоў жыта, а фэльшары палову,—дый гэта без аптэкі, якая ў свой чарод лупіць, сколькі можна. Ці-ж гэта не Амэрыка — пры 10—15 пудох заработку ў дзень? А нашы бедакі, выпаўняючы абавязак бацькоў, лечаць дзяцей, аддаючы за лекі апошняе дабро, палатно, абрусы і ўсё, што ёсьць цэннага.

Што рыхтуець нам гэтакае жыцьцё у той час, калі добрая палова жыхароў ужо галадае? І што будзе, калі да нас дакоціцца тыфус, які аб'явіўся ўжо ў суседняй Валожынскай гміне? Проста жах бярэ ад гэтай страшнай думкі.

Адкуль чакаць помачы, ня ведаем, бо ад назначанага ў гміну начальства і рады спадзявацца няма чаго. Праз чатыры гады ўрадаваньня „самаўраду“ ведама нам, што абгавараваліся спосабы, сколькі і як сьцягнуць падаткаў; а каб палепшыць хоць трошкі нашу долю, ніхто і не заікнуўся. Калі на куплю і рамонт непатрэбнага самаходу начальству захацелася патраціць каля 1500 даляраў, дык знайшліся і грошы, а на валаснога доктара і ўстройства бальніцы, зразумела, грошы няма. Вось як намі апякуюцца паны. А справа здаецца першай вагі.

Можа на нашу радасьць нам дапамогуць нашы зашчытнікі паслы Сялянска-Работн. Грамады?

**Адзін з многіх.**

### Лізуны.

(Кобрын).

У Кобрыні, горадзе, маючым адну гімназію, дзьве ці тры школы, тры пастарункі й штук дваццаць „ужэндаў“, Язэп атрымаў газэту.

Дык што-ж такое? Аб чым-жа пісаць? То-ж гэтулькі „Іосифов“, „Józefów“ ды „Ёсьляў“ атрымліваюць газэты, што, здаецца, ня варта было-б й сьведчыць аб гэтым!

Уся справа ў тым, што ня „Іосиф“, ня „Józef“ атрымаў, а Язэп, чуеце: — Язэп! нічога, здаецца, дзіўнага, што калі „Іосиф“ чытаець расейскія, а „Józef“ польскія, дык Язэп можа прачытаць беларускую газэту.

Але от жа-ж, адразу па атрыманьні „Беларускае Справы“, прыбягае да Язэпа „ўжэндлічка“ (Пані):

„Jak to, Józefie, otrzymaliście gazetę? Jak wam nie wstyd, toż przecie Białoruska? Jak śmiałeś ją wziąść? (Як атрымалі газэту? Як вам ня ўстыд, гэта-ж беларуская?! Як пасьмелі ўзяць?)

— Калі przyniaśli, то я... я... tego — заклапаціўся Язэп, ня ўмеючы папольску й баючыся гаварыць пабеларуску.

Пані „ўжэндлічка“, тлумачачы кепскасьць беларускае газэты, заяўляе, што газэта „бальшавіцкая“.

— Як жа-ж бальшавіцкая, калі пошта прыслала і паштальён прывёс?—запытаўся Язэп.

„No widzi Józef to dla tego że... że... na poczcie nie zauważyli. (Ну, — гэта таму, што на пошце не заўважылі).

І пайшлі далей крыкі на ўсю хату, пайшлі пагрозы, ды абяцанкі розных няшчасьцяў і . . . Язэп зьлякаўся . . . зьлякаўся ды адмовіўся ад свае роднае газэты. Адмовіўся, каб падабацца, каб атрымаць мо‘ калі з яе рук „падачку“,—пару грошаў пасьля доўгай і мазольнай працы, адмовіўся—за жыцьцё жывёліны! Але—чалавек не павінен у поўным значэньні гэтага слова адмовіцца ад свае роднае мовы, свае вёскі, нацыянальнасьці й культуры.

А колькі яшчэ ёсьць у нас паноў „інтэлігентаў“, вышаўшых з вёскі, якія „не пазнаюць“ сваіх бацькоў, „не разумеюць“ быццам мовы, у якой самы гаварылі і іх бацькі цяпер гавораць?!

Але ці шануючы сябе чалавек зьлякаецца калі небудзь свае роднае мовы?—Не! Гэта зробіць толькі абрубак, вырадак—рэнэгат—толькі той, хто за грош гатоў лізаць кожную лапу... Заставім-жа іх лізаць, а самі пойдзем сваім шляхам!

**Беларус.**

## Мацнейшыя гартуюцца!

(В. Залесьсе, Жыровіцкай гм.).

У 1 гадзіне ўначы аўтамабілем прыехалі ў нашу вёску азброеныя паліцыянты і накінуліся на хату грам. Уладз. Крупніка. — Зрабілі дакладны вобыск,—шукалі камуністычнай літэратуры, але нічога не знайшлі. Знайшлі ў кішані Крупніка толькі кусочак паперы, на якой грам. Крупнік рабіў свае адзнакі пры будове.—Аднак-жа, напісалі пратакол і забралі Крупніка, які і цяпер у вастрозе! А за што?!—Ня ведае!

У часе вобыску адзін шпік сказаў грам. Крупніку: „Кінь ты займацца чытаньнем беларускіх кніжак ды газэтаў,—будзе лепей“!—Відаць, за гэтае і пасадзілі!

Цяпер слабейшыя духам сяляне, бачачы гэтакае бяспраўе і самаволю паліцыі, баяцца чытаць беларускія газэты, каб не падзяліць долі грам. Крупніка!—Але мацнейшыя—толькі загартаваліся!

**Беларус.**

## Сумны абразок.

(З Ваўкавыскага пав.).

У нас, у Ваўкавыскім павеце цяжкае жыцьцё беларуса, — ніяк думкі яго ня зьдзяйсьняюцца. Ад часу ўваходу польскай улады ў наш край прайшло ўжо 7 гадоў, і за гэтыя сем гадоў край наш многа перацярпеў ад штучнай сыстэмы палянізацыі. Аднак, ня гледзячы на гэта, беларуская нацыянальная і сацыяльная сьвядомасьць сярод сялян расьце: дэклярацыі—прыгаворы аб адчыненьні сотак беларускіх школ—найлепшы доказ гэтага. Хоць улада адказала на гэта арыштамі і ўсякімі іншымі рэпрэсіямі, але гэта нічога не памагло: наш селянін яшчэ лепей загартаваўся!..

Вучыцельства ў польскіх пачаткавых школах у нас зусім няздольна вясьці якую-кольчы культурную працу. Вучыцялі не знаёмыя ані з пэдагогікай, ані мэтодыкай. Мне асабіста прышлося заглянуць да майго суседа, якога двое дзяцей, што прахадзілі ў школу ўсю зіму, ня ўмеюць навет „абэцадла“, а з матэматыкі да 20 ня могуць лічыць. Вось дык культура!..

Гаспадар, выбіўшыся з фізычных сіл, цягнуўшы гэтую лямку матар‘яльнага недахвату, бяручыся за якую небудзь работу: малацьбу ці гараньне, думае аб адным:—ці ня йдзе ўжо солтыс да яго з наказам платнічым—маёнтковым, грунтовым, дарожным, дый часамі з спадковым Сумна тады нашаму гаротніку: як яму выквітавацца і пражыць з якімі 7 ці 9 дзяцьмі на 2 дзес. зямелькі?!.

Да яшчэ, як на грэх, нашы абаронцы паслы ў Сойме падзяліліся,—неяк ня ладзяць паміж сабою, пайшлі рознымі галінамі. Мы гаротнікі, аднак, пэўны, што Грамадзе ўсьміхнецца доля, бо яе шлях абыймае абодвух гаротнікаў: як селяніна, так і рабачая, — і йдучы гэтым шляхам, мы выйдзем з гэтага сумнага і цяжкага жыцьця.

**Лявон Хмурны.**

**Хочаце паправіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Справа“, дык безадкладна зьвярніце ёй доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**

## Урачыстае адкрыцьцё Пінскага Аддзелу Беларускага Каапэратыўнага Банку у Вільні.

7-га красавіка с. г. ў 12 гадзін дня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Пінскага Аддзелу Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні. Не зважаючы на тое, што толькі ў аднаднёўцы „Наш Кліч“ была зьмешчана кароценькая абвестка аб адкрыцьці банку ў Пінску, сабралося шмат народу — выключна сялян з недалёкапаложаных ад Пінску вёсак Пінкавіцкае, Ставэцкае і Жабчыцкае валасьцёў.

Урачыстасьць адбылася ў памяшчэньні Банку і распачалася прамовай віцэ-старшыні Нагляднае Рады Банку пасла **П. Мятлы**, які ў кароткіх словах абрысаваў сучаснае эканамічнае палажэньне ўсяго краю, а асабліва цяжкае—беларускага сялянства на Палесьсі. Такое палажэньне змусіла прадстаўнікоў беларускага народу прыйсьці да вываду ад неабходнасьці ўтварэньня сваіх эканамічных каапэратыўных фінансавых і спажывецкіх установаў.

Пасьля прамовы пасла П. Мятлы ўзяў голос Старшыня Управы Віленскае Цэнтралі Банку, грам. **Радаслаў Астроўскі**, які ў гадзіннай прамове растлумачыў прысутным усё значэньне каапэрацыі ў жыцьці працоўных масаў і, даўшы кароткую гісторыю разьвіцьця каапэрацыі спажывецкай, фінансавай і вытворчай заграніцай, паінфармаваў прысутных аб працы Віленскага Беларускага Каапэратыўнага Банку. У сваім дакладзе аб дзеяльнасьці Банку грам. Астроўскі паказаў тое значэньне, якое Банк мае ў будучыні, і тую веру, з якою беларускі народ аднёсся да свае роднае ўстановы, ня гледзячы на надта дрэнны час, у які Банк нарадзіўся.

Банк быў адчынены 8-га лістапада 1925 году ў час найбольшага ліку банкавых банкруцтваў. Распачаў сваю дзеяльнасьць Віленскі Банк, маючы невялікую сумму грошай (укладаў) і 28 сяброў, з якіх $^{9}/_{10}$ складала беларуская працоўная інтэлігенцыя места Вільні. Праіснаваўшы няпоўных 5 месяцаў, Банк адчыніў два аддзелы і мае ў сучасны мамэнт больш 300 сяброў. Ужо панясьлі людзі ў Беларускі Банк свае ашчаднасьці, і гэта сьведчыць аб тэй веры, якая бязумоўна мае слушную падставу, ды якую Беларускі Банк мае сярод працоўнага беларускага народу, бо ў сучасны мамэнт 90 проц. сяброў складаюць сяляне.

Пазнаёміўшы далей прысутных з Уставам і банкавымі опэрацыямі, якія ў сучасны мамэнт праводзяцца, грам. Астроўскі закрануў пытаньне аб асаблівым значэньні Беларускага Банку для Палесься. Ведаючы дакладна павет (з свае папярэдняе працы ў Амэрыканскім Камітэце ў 1920—23 г. г.), грам. Астроўскі, дакладна знаёмы з усімі асаблівасьцямі паасобных вёсак павету і зварочваючы ўвагу найбольш на тыя, якія былі зруйнаваны падчас сусьветнае ды грамадзкіх войн, на яскравых прыкладах абрысаваў паасобныя цяжкія мамэнты ў жыцьці гэных вёсак і тыя крытычныя хвіліны ў гаспадарцы паасобных грамадзян, калі якраз патрэбен танны крэдыт, які толькі і можна атрымаць ад свае ўласнае каапэратыўнае ўстановы. У канцы грам. Астроўскі заклікаў прысутных разьнесьці гэную радасную вестку ўва ўсе куткі Палесься, дараджваючы несьці свае скромныя ашчаднасьці ў сваю ўласную касу.

Пасьля прамовы ўпаўнаважанага Пінскага Аддзелу грам. М. Васілеўскага, які даў разьясьненьні ў пытаньнях тэхнічнага характару пры пазыках і ўзносах, бралі голас **прадстаўнікі сялянства**, яны выказалі сваю ўдзячнасьць прадстаўнікам беларускага народу, дбаючы аб інтарэсах працоўных, і нарысавалі сумны малюнак адносінаў да іх прадстаўнікоў ды кіраўнікоў польскіх банкаў, куды зацягнулі шмат сялян, якія мелі ў парадку ўсе вымаганыя дакумэнты, у працягу 10 мінут атрымалі неабходную ім пазыку, са сьлязьмі расказваў аб тых зьдзеках, якія прышлося працярпець ад кіраўнікоў нейкага асадніцкага банку, дзе тры гады абяцалі, але нічога не давалі, адказваючы заўсёды, што няма грошаў. У той-жа самы час з таго-ж банку паны атрымоўвалі тысячныя пазыкі. Тут сяляне пераканаліся, што ў сваім беларускім банку да іх адносяцца, як да родных баратоў, захоўваючы толькі неабходныя фармальнасьці. У канцы прасілі перадаць у Вільні шчырую падзяку ўсім тым, хто йдзе разам з сваім народам, адчуваючы ўсе ягоныя балячкі. Апроч таго, прасілі паведаміць Таварыства Беларускай Школы, што Пінскі павет чакае ад яго прадстаўнікоў дзеля зарганізаваньня аддзелу Т-ва, бо, ня гледзячы на складаныя дэклярацыі на беларускія школы, дасюль Пінскі павет ня мае ніводнае.

**Прысутны.**

## Беларусы у Латвіі.

### Цемра родзіць цемру.

У нашай Скайсьценскай (б. Забалінскай) гміне, Дзьвінскага павету, ёсьць вёска Юхнікі. Жыцьцё гэтай вёскі надта сумнае, усе жыхары бедныя—маюць амаль ні што ня ўсе па 2—3 дес. зямелькі, а дзяцей—у кожнага поўная хата.

Трэба бацьком думаць і брацца за навуку дзетак, а то будзе яшчэ горай, як ёсьць. Праўда, школы навакола ёсьць; хоць да іх кавалак дарогі: у Кокінскую 3 вярсты, а ў Таловіцы $3^1/_2$ вяр.; некатарыя з дзетак у мінулым годзе хадзілі ў гэтыя школы.

Вось, знайшоўся „добры і разумны“ „правадыр“ гэтай вёскі **Адам Клыгуль**, які перарабіўся з беларуса на паляка. Ён і кажа: „што нам пасылаць сваіх дзетак у гэтыя беларускія школы,— ды чаго яны там навучацца? Зьбярыце вы мне ўсе па 50 руб., з дзіцяці, я вам зраблю тут у весцы польскую школу“.

Зразумела, як пана Клыгуля лічаць у вёсцы дужа разумным чалавекам, дык і сабралі пану Клыгулю 800 руб. (на боты), на адчыненьне польскай школы, якой і сёньня ніхто ня бачыць і, зразумела, яе і ня ўбача, дзеля таго, што гміна і так стогнець, як утрымаць гэтыя школы, якія цяпер істнуюць.

Год бяжыць, бацькі чакаюць школы, а дзеткі іх растуць вaўчанятамі і—зразумела—застануца ў цемры, дзякуючы панскім падлізам.

Пашло незадаваленьне сярод бацькоў. Каб іх крышку пацешыць, а магчыма, каб сабралі на другія боты, пан Клыгуль пусьціўся на хітрыкі і кажа: я ўжо маю паперу на адчынене 6-ці клясовай школы; толькі вы прыгатуйцьце будынак пад школу.

Ані гміна, ані павятовая школьная ўправа, ані школьны інспэктар аб гэтым нічога ня ведае, а пан Клыгуль ужо адчыняе школу.

Было-бы дужа карысна — ані п. Клыгуля ня слухаць, ані п. Ласевічаў і др. панскіх служак, і не пасылаць сваіх дзетак у Краслаўскую пачатковаю польскую школку, а пасылаць у пачатковую школку—суседняй вёскі. Было-бы карысьць усей хаце і здароўе для кішаня, і ня трэба было-б для папраўкі сваіх цяжкіх абставінаў вымагаць ашуканствам ад сваіх суседзяў апошні грош.

**Язэп са Звонага-Дзірвана.**

## Юрыдычныя парады.

**Падпішчыку № 1529.** Вы пішаце ўсё „сэрвітут“, а ў дакумэнце сказана „супольнае пасьвішча“; гэта дзьве зусім розныя рэчы: „супольнае пасьвішча“ значыць, што належыць да вёскі на праве ўласнасьці ў роўнай часьці з абшарнікам, і бяз вёскі ня можна было прадаць.

Радзім зьвярнуцца да адваката.

**Язэпу Трыбухоўскаму.** *Запытаньне*: Мой бацька памёр у 1915 годзе, аставіўшы трох сыноў ад першай жонкі і трох сыноў ад другой жонкі — маей маткі. Гэтыя тры сыны ад першае жонкі на гаспадарцы ня жылі больш як 25 гадоў і цяпер ня жывуць. Цяпер адзін з іх хоча адабраць сваю часьць і ці страціў ён права спадчыны тады, калі мінула 10 гадоў са сьмерці бацькі, а ён да гэтага часу спадчыны не даходзіў?

*Адказ*: Калі той брат, што падаў у суд, мае менш 31 году, дык можа даходзіць спадчыны па бацьку.

**Шэстакову.** Пакуль бацька жыве, ніякай часьці дахадзіць ня можаце.

**Уладзіміру Гмыру.** Як дакумэнту на 1 дзесяціну не зрабілі, дык нічога ня будзе.

## Паштовая скрынка.

**Вясковаму хлапцу з Празароцкае гм.** Вашай карэспандэнцыі зьмясьціць ня можам — не падходзіць. Тое, аб чым Вы пішыце, пашырайце самі сярод сваіх сялян,—вядзеце ўсьведамляючую працу.

**Карэспандэнту Пакроўскага прыходу, Лідзкага павету.** Карэспандэнцыю вашу зьмясьцім, як прышлеце свой адрэс і прозьвішча—для ведама Рэдакцыі.

**Алёшы Мельнікаву з Бакшт.** Ваша карэспандэнцыя „Сьвяшчэньнікі“ ў нашу газэту не падходзіць. Яна хутчэй магла-б падыйсьці ў гэтакую часопісь, якой была „Праваслаўны Беларус“. Аб „Моцы Моцнага“ дамо адказ пазьней.

**Асінагародзкаму прыхаджаніну.** Карэспадэнцыю аб сьв. Жукаву атрымалі, але не надрукуем: лішне ўжо там многа сямейных спраў! А што сяляне адвярнуліся ад яго, дык добра зрабілі.

**„Піліпу з канапель“ у Валожыншчыне.** Аб тым, як Карташэвічы маніліся праз камісарыху „залагодзіць“ камісара,—друкаваць ня будзем. У тым, што розныя „камісарыхі“ і іншыя „бяруць“, — вінаваты перадусім тыя, хто „даець“!..

**Атрымана:**

Ад:—Клеманса Грымуты, Майсея Касьцюка, Рыгора Варановіча, Антона Сакалоўскага, Яна Каробкі, Ганны Мазалеўскай, Станіслава Грынкевіча, Яна Сідаровіча, Вячаслава Катовіча, Гальяша Ступніцкага, А. Міскевіча, М. Любецкага, Сэрафіма Бурневіча—**па 3 зл.**

Ад: — А. Талуця, Мікалая Бохана, Аляксандра Кішкеля, Яна Мімаховіча, Гарасіма Шуткевіча, Міхала Русіна, Яна Корчыка, Яна Тадаровіча, „Грамады“ в. Вострава, Аляксандра Наумовіча, Рыгора Былінскага, Яна Сычава, Гіпаліта Баравога, кс. М. Барыслаўскага, Міхала Косьцевіча, М. Г. па падпісному лісту, С. Жыткевіча, Максіма Абрамчыка; Тамаша Валянцюкевіча, Аляксандра Чэтыркі, Яна Шэйбака, Мікалая Марчука, Кузьмы Рагачэўскага, С. Мазурэка, Сэрафіма Татарына, Аляксандра Сармінскага, Тодара Рамейкі, Антона Кандратовіча, Язэпа Санчука, Андрэя Літвіна, Ігната Лапаты, Піліпа Пыска, Аляксандра Гурыновіча, Паўла Карзёнка, Яна Труса, Аляксандра Андрукевіча, Канстантага Стэбуракі, Шпотскага, Мікалая Астравецкага, Аляксея Мамая—**па 4 злоты.**

Рэдактар-Выдавец: **Ал. Вільчыцкі**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.